 

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 25 (1164) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 18 ЧЭРВЕНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.

## „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-78" ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

# У ПАШАНЕ НОВЫЯ ПЕСНІ

У сонечную нядзелю 28 мая праходжых па вуліцы Варшаўскай у Беластоку затрымоўваў меладыйны спеў у дзіцячым выкананні. Хоць галасы былі нямоцныя, спеў быў прыемны, лагодны, рамантычны, а часам вясёлы, скочны.

У будынку Беларускага грамадска-культурнага таварыства адбываўся чарговы, ужо сёмы міжшкольны конкурс „Беларуская песня - 78". Арганізатарамі яго былі Кураторыя асветы і выхавання ў Беластоку і ГП БГКТ.

Сабраліся дзеці з многіх школ Беласточчыны, пераважна адтуль, дзе вывучаецца беларуская мова, але не толькі. Прыехалі з настаўнікамі, апранутыя часта ў беларускія нацыянальныя касцюмы, як на сапраўднае свята песні. Зала таварыства была перапоўнена ўдзельнікамі.

Ужо ў пачатку конкурсу ў зале стаяла атмасфера святочнай узнятасці, хвалявання, перажыванняў, каб выступленне ўдалося. Дзяцей прывіталі вельмі сардэчна, падбадзёрваюча Аляксандр Іванюк, прадстаўнік кураторыі, і Ян Зенюк сакратар ГП БГКТ.

Пачалі конкурс салісты. Дванаццаць дзяўчатак і два хлапчукі па чарзе выканалі падрыхтаваныя песні. Галасы ў большасці яшчэ дзіцячыя, як заўсёды ў гэтым конкурсе, але некаторыя ўжо выразна пастаўленыя, моцныя і цікавыя. Найвышэй былі ацэнены Іра Мартынюк з Рыбалаў і Аліна Бурыла з Маліннікаў. Іра атрымала ўзнагароду „Зоркі", а Аліна — першую ўзнагароду БГКТ. Другое месца падзялілі Янка Троц з Орлі і Аня Ахрымюк з Ляўкова. Трэцяе месца — Надзя Мазурук з Малліннікаў і Еля Панфілюк з Дубічаў Царкоўных.

З цікавымі, вельмі старымі песнямі, запісанымі ад сваёй бабулі, выступіла Іра Бурак з Пашкоўшчыны. У разуменні дзецьмі вартасці фальклору бачу вялікую ролю настаўнікаў, якія прывіваюць сваім вучням любоў да народнай спадчыны.

Дуэт са Старакорніна (Тоня Назарук і Тоня Сурэль) здзівіў слухачоў песнямі якіх яны, мабыць, ніколі не чулі. Зусім новыя, арыгінальныя, пры гэтым распрацаваныя цудоўна на два галасы. Хоць песні былі нялёгкія для выканаўцаў, справіліся дзяўчаткі з імі вельмі добра. Спявалі лёгка, спакойна, вялікая прыемнасць была іх слухаць. Яны і занялі першае месца.

Маленькая Ірынка Гаўрылюк і Ірынка Семянюк спявалі ўпэўнена, зладжана, добрымі галасамі. Спадабаліся яны гледачам не толькі выкананнем, але і выглядам — былі ў вельмі каляровых касцюмах. Гэты дуэт з Курашава заняў другое месца.

Сярод калектываў першае месца было прызнана квартэту з Малліннікаў, другое — з Лубіна Касцельнага (дарэчы, у гэтай школе няма беларускай мовы), і трэцяе — з Ляўкова.

Канцэрт закончыў ляўкоўскі хор. Ён быў неспадзеўкай для арганізатараў, бо прыехаў, не папярэдзіўшы. Вельмі мілая была гэта неспадзеўка. Хор паказаў, што не толькі добра спявае, але ўводзіць і новыя, эксперыментальныя формы. Вельмі спадабалася гледачам дэкламацыя на фоне спяванай песні. Апякуецца хорам настаўнік Васіль Целушэцкі.

Наогул, у падрыхтоўцы да конкурсу вялікі ўклад працы ўнеслі настаўнікі. Як ніколі яшчэ, у гэтым годзе на сцэне былі амаль выключна новыя песні. Асабліва ў прадстаў-

(Працяг на стар. 5)



*Калектыў з Лубіна Касцельнага заняў другое месца.*

# ФЭСТ у ЛІТВІНАВІЧАХ

Гэта было сапраўднае вясковае свята. І не таму, што гэты фэст наладжаны быў у нядзелю, 28 мая, а перш за ўсё таму, што жыхары Літвінавіч заўчасна і шчыра да яго рыхтаваліся.

— Каб толькі пагода нам спрыяла, — гаварыў мне перад фэстам Міхась Вішанка, інструктар Галоўнага праўлення БГКТ на гэты раён, — а ўсё іншае мы самі зробім, бо ў Літвінавічах жывуць людзі вельмі актыўныя, такія, для прыкладу, як Ян Кавалевіч, Віталій Страпчук, Кастусь Мішчук. З імі ўжо правялі не адзін фэст і яшчэ не адзін правядзем.

Сяляне зрабілі рамонт вясковай святліцы, дабудавалі да яе яшчэ адзін пакойчык, змайстравалі даўжэзную лаўку, каб можна было пасядзець у цяньку дрэў, пагутарыць з суседзямі. Тут найбольш вылучыўся мясцовы майстар Ві-

(Працяг на стар. 8)




*Задорная „Лявоніха" ў выкананні вучняў Бельскага беларускага ліцэя.*

## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# БАРЫСАЎШЧЫНА

Трапіць у яе не так і цяжка: з чыгуначнай станцыі Нурэц, што знаходзіцца на лініі Чаромха-Седльцы, амаль да самай мясцовасці вядзе ладная дарога. Усяго якіх 6-7 кіламетраў язды па ёй — і перад вамі сярод узлескаў і гаяў параскіданы групкамі хутары **Барысаўшчыны.**

Гэта і ёсць якраз той абшар, дзе прасціраліся паўночныя ўскраіны колішняй дрымучай **Мельніцкай пушчы.** Тут рэшткамі гэтага таямнічага, бо з недаследаванай па сённяшні дзень багацейшай гісторыяй, ляснога масіву з'яўляюцца цяперашнія **Выруб, Выгода, Градкі, Дуброва, Шырокая Куліса** і іншыя большыя і меншыя лясочкі. Ва ўрочышчы **Замчыска** вельмі добра захаваліся сляды нейкай крэпасці: акружаючых яе рову і землянога насыпу. Гэтае недаследаванае таксама гарадзішча ляжыць непадалёк ад вытокаў рэчкі Пульвы, правага прытоку Буга. Над сярэднім цячэннем Пульвы польскія і савецкія археолагі даследавалі значную групу гарадзішчаў і акрэслілі іх паходжанне на VI-X стагоддзі нашай эры. Адкрытыя там знаходкі паказваюць, што жылі тут усходнія славяне. Гарадзішча з урочышча Замчыска, відаць, належыць да той жа групы. Неабходна прыгадаць, што здаўна сюдою праходзіў рухлівы шлях з Бярэсця ў Бельск, Бранск, Сураж і Нарву.

Зразумела, людскія паселішчы ў такім праязным месцы падвяргаліся частым знішчэнням, але яно тут ніколі цалкам не пуставала. Сярод прозвішчаў цяперашніх жыхароў Барысаўшчыны **Адамюк, Амельянчук, Андрэйчук, Баена, Бартосюк, Верамяевіч, Каліноўскі, Кісляк, Ляшук, Піўніцкі, Трахімяк, Эйсмант, Яшчук, Ярашук** бачым і такія, што бытавалі ў Надбужжы яшчэ ў XVI стагоддзі, напрыклад: Адамюк ці Яшчук. Падляшукі вельмі глыбока запусцілі карэнні ў сваю родную зямельку. Не пакідалі яе ў самыя цяжкія трагічныя часіны.

У першыя пасляваенныя гады ў Барысаўшчыну ноч у ноч прыходзілі банды рэакцыйнага падполля, грабілі ўсё: адзежу, пасцель, збожжа, жывёлу, нават посуд, абкладалі барысаўчан непасільнымі грашовымі кантрыбуцыямі, выганялі прэч з сяла, пагражалі расстрэлам, калі не пакінуць назаўсёды сваёй роднай мясцовасці. Толькі пяць сем'яў сярод трыццаці паддалося гэтаму націску і выехала. Іншыя ж хаваліся па лясах, багнах, бульбяных ямах, абарогах, але... вытрымалі, хоць пасля і не мелі за што рук зачапіць і штокалечы ўздзець на сябе ці на зуб пакласці. Родная старонка даражэй за ўсё...

З бегам часу людзі абжыліся, спрыяльны працоўнаму чалавеку грамадскі лад ды ўласная працавітасць і дбайнасць далі шчодры плён. І ў дзейнасці на ўласных гаспадарках, і ў агульнай справе. У Барысаўшчыне сярод 26 гаспадарак не мала высока прадукцыйных, такіх, як у **Уладзіміра Яшчука,** які спецыялізуецца ў гадоўлі малочнага быдла, **Іосіфа Ляшука** — таксама добрага гадоўцы, **Юльяна Ярашука,** што ў мінулым годзе ад 4 мацёраў прадаў СКРу 55 падсвінкаў. Цяпер жа трымае 6 мацёр і мае намер прадаць дзяржаве 10 штук адкормленага убойнага быдла і некалькі дзесяткаў падсвінкаў. У яго новыя абшырныя будынкі, свой трактар, свая легкавая машына. Ён цяпер займаецца на завочным аддзяленні сельскагаспадарчага тэхнікума ў Бельску. І ў той жа час Ю. Ярашук ўзначальвае калектыўную сельскую гаспадарку, што належыць СКРу ў Нурцы-станцыі.

Гэтая гаспадарка якраз і ёсць прыкладам дбайнасці тутэйшых людзей не толькі пра свой падворак ці загон, але і пра агульнае дабро. Пачалося ўсё з таго, як кажа Ю. Ярашук: „Некалькі нас, малодшых гаспадароў з Барысаўшчыны і навакольных сёлаў, проста не маглі глядзець абыякава на пуставаўшыя кавалкі зямлі, што належала да ПФЗ. Аб'ядналіся, ды сталі супольна абрабляць яе. Нашу ініцыятыву падтрымалі мясцовыя ўлады, дапамаглі, заахвоцілі і так пайшло..." І цяпер калектыўная сельская гаспадарка Барысаўшчына разраслася ў праўдзівага абшарніка ды вялікую фабрыку мяса. Яна гаспадарыць на 1200 гектарах у асноўным ворыўнай зямлі, што знаходзіцца ў 14 навакольных вёсках у 340 ка-

(Працяг на стар. 4)

 

 

(Працяг са стар. 1)

# ФЭСТ у ЛІТВІНАВІЧАХ

талій Страпчук, які патрапіць і будынак паставіць, і ўсялякую сталярку зрабіць. Яго жонка, Марыя Страпчук узначальвае ў Літвінавічах гурток вясковых гаспадынь, якія таксама не чакалі фэсту з заложанымі рукамі. Дапамагалі мужчынам у рамонце святліцы, а пасля заўзята мылі там падлогу, варылі і пяклі, каб, як сапраўдныя гаспадыні, не паўстыдацца перад гасцьмі.

А гасцей наехала шмат. Ад імя ваяводы быў намеснік дырэктара аддзела ўнутраных спраў ваяводскага ўпраўлення Эльяш Федаровіч, галоўнае праўленне БГКТ прадстаўляў старшыня Мікалай Самоцік. З Нурца прыехалі прадстаўнікі многіх устаноў і прадпрыемстваў, а сярод іх — сакратар гміннага камітэта партыі Антон Брык і начальнік гміны Мікалай Касцюк. Была таксама дэлегацыя войска аховы пагранічча на чале з капітанам Сяргеем Аверчуком.

Усіх гасцей і ўдзельнікаў фэсту прывітаў старшыня гміннага камітэта ЗСЛ, жыхар Літвінавіч, Канстанцін Мішчук. Затым з дакладам аб 60-годдзі БССР выступіў старшыня М. Самоцік.

А пасля са сцэны, упрыгожанай маладымі бярозкамі і лозунгамі, чырвоным і зялёным палатном, паплылі родныя беларускія песні. Спявалі беластоцкія дзяўчаты з „Каласкоў" і жанчыны (з адным мужчынам) з Райска. „Каласкі" рэкламы не патрабуюць. Яны пабывалі ўжо ў многіх вёсках Беласточчыны, іх бадзёрасць, іх энергія і радасць жыцця пераліваюцца ў слухачоў і выклікаюць заўсёды буру воплескаў.



З дакладам выступіў старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік.



11 жанчын у расквечаных сукенках, якія яны самі сабе пашылі, і адзін мужчына, Ігнат Мамотка, — гэта харавы калектыў з Райска.

Затое райчане выступалі тут упершыню. Гэта былі іх публічныя хрэсьбіны, іх мастацкі дэбют. Прайшоў ён паспяхова. Прыемна нам тады прывітаць яшчэ аднаго члена ў сям'і самадзейных беларускіх калектываў.

Вогненнай „Лявоніхай" і не менш рытмічнымі іншымі народнымі танцамі цешылі вочы прысутных вучні Бельскага беларускага ліцэя.

...І так праходзіў гэты фэст радасна і змястоўна. Сельскагаспадарчы банк з Нурца наладзіў конкурс з каштоўнымі ўзнагародамі па ведах аб яго дзейнасці, прадстаўнікі вясковага гандлю, як сапраўдныя купцы, не прапусцілі нагоду, каб паказаць, якую модную вопратку можна зараз купіць у іх крамах, медыцынская служба наладзіла сваю віктарыну... Проста кожны даклаў ад сябе, што меў карыснае, цікавае і павучальнае. Адчувалася прадуманая арганізацыя, за якую Міхась Вішанка прасіў асабліва падзякаваць гміннаму камітэту партыі ў Нурцы.

Нейкіх паўтары тысячы чалавек, якія пабывалі на фэсце ў Літвінавічах, напэўна доўга будуць успамінаць гэтае зусім новае вясковае свята. А праз год у апошнюю нядзелю мая сустрэнуцца яны тут зноў. Так дагаварыліся.

**В. Рудчык**
Фота аўтара



„Мы сардэчна вас вітаем, многа радасці жадаем..." — так распачалі мастацкую частку фэсту беластоцкія „Каласкі".



На фэст у Літвінавічы прыйшлі і прыехалі людзі з многіх навакольных вёсак.

# ХТО колькі і НА ШТО

Што можа быць даражэй здароўя? На гэтае пытанне адказ ёсць толькі адзін, і яго адназначна далі жыхары Беласточчыны, уплаціўшы на працягу пяці год (1973-1977) 219 мільёнаў злотых на Нацыянальны фонд аховы здароўя. Гэты значны грамадскі грош пайшоў на надта патрэбныя і важныя справы. Перш за ўсё яго коштам былі закончаны тыя прадшколлі, школы і інтэрнаты, будова якіх была распачата яшчэ за сродкі з папярэдняга Фонду будовы школ і інтэрнатаў. Збіранне сродкаў на гэты фонд, як вядома, было спынена, але распачатыя будовы трэба было закончыць і на гэта пайшло 70 мільёнаў злотых з Нацыянальнага фонду аховы здароўя. Уся астаўшаяся сума пайшла на паляпшэнне аховы здароўя: будаваліся і абсталёўваліся навейшай апаратурай павільён на 65 ложак у гайнаўскай бальніцы, павільён на 133 ложкі пры Беластоцкай анкалагічнай бальніцы, асяродкі здароўя ў Шудзялаве і Туросні Касцельнай, павільёны пры Доме апекі для дзяцей у Засценках каля Беластока, Доме апекі для дарослых у Харошчы, Доме пенсіянераў у Беластоку, яслі ў мікрараёне Пяста ў Беластоку і іншыя аб'екты.

Варта прыглядзецца дакладней, як праходзіла збіранне сродкаў на Нацыянальны фонд аховы здароўя ў мінулым 1977 годзе. Наогул адбывалася яно з добрым вынікам, бо на запланаваны 31 мільён злотых грамадства Беласточчыны ўнесла 32 мільёны 500 тысяч злотых. Аднак у некаторых гмінах шмат сялян не заплаціла задэклараваных імі ж самімі складчын, і ў выніку план збору сродкаў ад сялян у ваяводстве быў выкананы ўсяго ў 96 працэнтах. Тэрмінова і найбольш заплацілі сяляне з горада і гміны Кнышын, з горада Гайнаўкі, з гміны Крыпна, з гарадоў у Беластоку і Бельску, а таксама з горада і гміны Дуброва Беластоцкая. Яны заслужылі на асаблівую ўдзячнасць з боку ўсяго грамадства нашага ваяводства і, бадай, у бягучым годзе колькасць такіх старанных сялян павялічыцца.

Доказ гэтаму тое, як адбываецца збіранне сродкаў на НФАЗ у бягучым годзе. На агульны план 33 мільёны злотых у 1978 г. за мінулыя першыя чатыры месяцы сабрана 12 мільёнаў 525 тысяч 800 злотых, гэта значыць 37,9 працэнта гадавой сумы. Пры тым працаўнікі дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстаноў выканалі свае абавязкі ў 33,6%, розных кааператыўных прадпрыемстваў у 37,2%, а сяляне аж у 56,4%! І так, на задэклараваную сялянамі Беласточчыны суму на 1978 г. 6 мільёнаў 350 тысяч злотых, яны да 30 красавіка г.г. заплацілі 3 мільёны 584 тысячы 100 злотых. Вельмі добра!

Варта кінуць вокам па нашаму ваяводству, хто і як плаціць на НФАЗ. Сярод нашых трох **выдзеленых гарадоў** (Беластока, Бельска і Гайнаўкі) у першым квартале бягучага года па выкананню плана першае месца займаў Бельск, другое — Гайнаўка, а апошняе, трэцяе — сталіца ваяводства Беласток. Сярод **гарадоў-гмін** на першым месцы знаходзіўся Сураж, на другім — Харошча, на трэцім — Драгічын, на чацвёртым — Саколка, на пятым — Супрасль, а на перадапошнім, трынаццатым — Кнышын і самым апошнім, чатырнаццатым — Заблудаў. Сярод **гмін** першае месца належала Крыпну, другое — Юхноўцу, трэцяе — Тыкоціну, чацвёртае — Дзядкавіцам, пятае — Бельску, а перадапошняе, трыццаць чацвёртае — Шудзялаву, апошняе, трыццаць пятае — Кузніцы. Цікава таксама заўважыць, што збіранне сродкаў на НФАЗ **сярод працаўнікоў** адбываецца найлепш у гарадах-гмінах Заблудаве, Харошчы і Супраслі, гмінах Крынкі, Бельск, Новы Двор, **сярод жа сялян** найлепш у гарадах-гмінах Монькі, Саколка і Лапы, у гмінах Юхноўцы, Тыкоціне, Крыпне. Вельмі спраўна дзейнічае **школьная моладзь** з горада-гміны Сураж і гміны Кляшчэлі.

Сабраныя на Нацыянальны фонд аховы здароўя сродкі накіроўваюцца ў бягучым годзе на такія будовы: асяродкі здароўя ў Шудзялаве, Лубіне Касцельным, Боцьках, Рудцы каля Бельска; амбулаторыі ў Васількове і павелічэнні амбулаторыі на вул. Сланімскай у Беластоку, пабудову павільёнаў пры заразнай бальніцы ў Беластоку, узвядзенне спецыяльнага „бункера" для абсталявання „Нептуна 10" у анкалагічным шпіталі ў Беластоку і тэрапеўтычнага аддзялення ў бальніцы ў Харошчы. За гэтыя сродкі будзе будавацца чацвёра ясляў у горадзе Беластоку і яслі ў Гайнаўцы, Сямяцічах, Саколцы і Дуброве Беластоцкай. На ўсё гэта пойдзе звыш 53 мільёнаў злотых, значыць, да тых 33 мільёнаў, што плануецца сабраць ад жыхароў Беласточчыны, з цэнтральных фондаў будзе дакладзена звыш 20 мільёнаў злотых. **(іс)**



 

# ПАКОЙ, ПОЎНЫ ЎСПАМІНАЎ АБ ВАЙНЕ

Ізба нацыянальнай памяці ў Лясным тэхнікуме ў Белавежы, хаця існуе толькі 3 гады, вядомая ўжо ў многіх кутках Польшчы. Прысвечана яна леснікам і дрэваапрацовачнікам Беласточчыны, а таксама жыхарам Белавежы, якія аддалі жыццё за вызваленне айчыны ад гітлераўскіх захопнікаў. Памяткі збіралі тры гады. Назбіралі іх за гэты час каля 900. Ізба была адкрыта 27 красавіка 1975 г. Апекуном яе стаў настаўнік мгр інж. Здзіслаў Новак — галоўны ініцыятар утварэння ізбы.

Калі наведваеш ізбу, перш за ўсё ў вочы кідаецца вельмі ўдалае пластычнае вырашэнне цэлай выстаўкі. Відаць, што створана яна з сэрцам. Экспанаты, разнародныя па форме і зместу, укладваюцца ў здзіўляюча лагічную цэласць. Усё тут размешчана на адпаведным месцы.

Перастулаючы парог ізбы, наведвальнік, як правіла, спярша затрымоўваецца ля вялікага партрэта патрона тэхнікума — ген. Аляксандра Вашкевіча (1901-45), камандзіра 5 дывізіі пяхоты 2 Арміі Войска Польскага, ураджэнца Белавежы. Па абодвух баках партрэта, на сцяне, вісяць карты гітлераўскіх злачынстваў і баёў, што адбываліся ў Польшчы. Унізе паказана калекцыя медаляў за ваенныя заслугі. Побач, у зашклёных шафках, знаходзяцца памяткі па членах Саюза патрыётаў, дзейнічаючага на тэрыторыі Савецкага Саюза, а таксама памяткі з верасня 1939 г. — вайсковыя шлёмы, шпоры, уланская шашка, штыкі і т.п.

У супрацьлеглым баку памяшкання, ля сцягоў Ляснога тэхнікума, мясцовага гуртка ЗБоВіД і гміннага камітэта ПАРП на спецыяльных лістах названы прозвішчы людзей, расстраляных 3 жніўня 1941 г. ва ўрочышчы Пэрэроў (цяпер месца гэтае ў СССР) — ахвяраў першай масавай экзекуцыі на тэрыторыі пушчы, затым прозвішчы загінуўшых у г.г. 1941-44 на тэрыторыі Гайнаўскай установы дрэваапрацовачнай прамысловасці.

Побач, у вокнах, бачым здымкі (дыяпазітывы з натуральным падсвятленнем) месцаў экзекуцый і карту гітлераўскіх злачынстваў на Беласточчыне. Над імі пададзены інфармацыі аб стратах у людзях падчас II сусветнай вайны. Унізе, ля вокнаў, у вітрынах знаходзяцца пісьмы палонных з канцэнтрацыйных лагераў, паведамленні аб смерці, аб'явы з перыяду вайны ці здымкі розных здарэнняў (экзекуцыі, пацыфікацыі і т.п.) з таго ж самага перыяду.

Пад сцяной, супрацьлеглай да вокнаў, у шафках, паказваецца арыгінальная ваенная экіпіроўка салдатаў, афіцэрскія эпалеты, вайсковыя значкі, боепрыпасы, зямля з-пад Леніна, банкі на малако, у якіх партызанам дастаўлялі боепрыпасы, гільзы, ружжо, стрэльба савецкага партызана „Ванькі", які паміраючы, перадаў яе ляснічаму Кубінкевічу, запальнічка, выкананая з гільзы, ці савецкія і нямецкія шлемы.

Цікава рэкамендуецца цэнтр памяшкання. На вялікім стале, прыкрытыя шклом, ляжаць арыгінальныя нумары ваеннай прэсы, як, напрыклад, „Гвардзеец", „Пераможам", „Інфармацыйны бюлетэнь", „Барацьба маладых". Можна тут таксама агледзець пашпарты і грошы, якія ўжывалі ў вайну, здымкі леснікоў-салдатаў ці іншыя здымкі з памятных трагічных дзён гітлераўскай акупацыі. На ўсе сабраныя памяткі выстаўлены ў ізбе не хапае месца. Патрэбны былі б яшчэ два такія памяшканні. Ды, вядома, з гэтым заўжды бываюць клопаты. Калі б іх вырашыць, белавежская ізба магла б з поспехам выконваць ролю філіяла беластоцкага Музея войска.

**П. Байко**
Фота аўтар



*Мгр інж. Здзіслаў Новак водзіць па ізбе моладзь з пачатковай школы ў Беластоку.*

— Раечка, я цябе кахаю, я шчаслівы, — прагаварыў ён, беручы далікатна яе за грудзі, як паўпрытомны, абвіваючы яе цела сваім целам.

— Сцёпка, я твая, — Рая, узяўшы Сцёпку за валасы і гледзячы ў яго чорныя вочы, паўтарыла гэтыя словы некалькі разоў, а пасля раптоўна абнажылася, каб разам са Сцёпаю спажываць пажаданне, каб ад гэтай хвіліны валодаць цалкавіта гэтым нявінным, нявопытным, маладым чалавекам.

І не прайшло нават пяці тыдняў ад іх знаёмства, а ўжо сталі яны рыхтавацца да вяселля. І пажаніліся. Сцёпка хадзіў штодзённа на работу, а Рая хадзіла на рынак, таргавала адзеннем, выязджала за граніцу па залатыя вырабы і прадавала іх па высокіх цэнах.

У хаце Сцёпкі запанавала прыемная атмасфера. Бацька перастаў прыводзіць дамоў жанчын. „Мусіць, сароміцца маёй жонкі". — думаў Сцёпка. Ды яшчэ тлумачыў гэта і тым, што пяцідзесяцігадовы чалавек урэшце абразуміўся і перастаў гуляць з жанчынамі свабодных абычаяў. Панас не грубіяніў, а да Раі адносіўся даволі сардэчна. Яна прыбірала таксама пакой свайго цесця, рыхтавала смачныя абеды. Жылося ўсім добра. У хаце не было ані сварак, ані нервовасці. І раптам нечакана здарылася страшнае.

Сцёпе на рабоце запрапанавалі экскурсію за граніцу. Неабходна было адразу запоўніць анкету. Але Сцёпа забыў пашпарт і паімчаўся дамоў. Хутка ўбег у хату і ўбачыў на сваім тапчане Раю з бацькам. Гэта яго так ашарашыла і збунтавала, што ўдарыў Раю па твары. Пацякла ў яе з носа кроў. Падняў ён таксама руку на бацьку, але Панас, здаравяка, пабіў сына так, што збегшыеся суседзі выклікалі хуткую дапамогу і адвезлі Сцёпку ў бальніцу. Пабіццё не было цяжкае, але цяжкае было нервовае расстройства. На працягу месячнай пабыўкі ў бальніцы ён усё ўспомніў, прааналізаваў адносіны жонкі да яго і прыйшоў да вываду, што быў ён вельмі наіўны, што замнога ёй давяраў. Вярнуўшыся з бальніцы, ён даведаўся, што Рая ўжо зрабіла некалькі абортаў.

У хаце не застаў ані яе, ані бацькі. Суседзі сказалі, што яны, узяўшы чамаданы, некуды выехалі.

Час хутка праходзіў. Ён, як лекар, гаіў душэўныя раны Сцёпкі. Пачаў цяпер ён сам разглядацца за кандыдаткай на жонку. І ўрэшце сустрэў добрую, сумленную дзяўчыну са свайго прадпрыемства і з ёю ажаніўся. Дачакаўся ўжо двух сыноў. Жыве заможна, добра і шчасліва.

**Міхась Сваяк**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

ЛЮБОЎНАЯ




*Ой ты, рутка мая, ты зілёная,*
*ой, калі ж ты зышла, калі вырасла?*
*— Я весною зышла, летом вырасла,*
*на рыку, на дунай нахілілася.*
*На рыку, на дунай нахілілася,*
*на хлопца-малайца надзівілася.*
*Ой, выйду ж я, выйду я на горэньку,*
*ой, вазьму ж я его да й за ручэньку.*
*Ой, вазьму ж я его да й за ручэньку*
*паваду я его у светлічэньку.*
*Паваду я его у светлічэньку,*
*пасаджу я его да й на крэслячку.*

*Пасаджу я его да й на крэслечку,*
*налію ж я ему віна чарачку.*
*Налію ж я ему віна чарачку:*
*— Выпівай, выпівай, мой каханачку.*
*— Не прышоў да цябе я й напіцісе,*
*но прышоў да цябе дазваліцісе.*
*Но прышоў да цябе дазваліцісе,*
*чы пазволіш ты мне ажаніцісе?*
*— Ажаніся кавалер, памажы Божэ,*
*ні бары ўдавы, сцеражы Божэ,*
*но бары дзевачку, сваю роўначку,*
*сваю роўначку — палюбоўначку.*

Ад Аляксандры Бонкард, 1909 года нараджэння, вёска Стачок каля Нараўкі, запісаў 6 сакавіка 1978 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі — Людмілы Панько.

(Працяг са стар. 1)

## У ПАШАНЕ НОВЫЯ ПЕСНІ

нікоў школы ў Малінніках (настаўніца музыкі Галіна Марчук) і школы ў Старакорніне (рыхтавала настаўніца Аляксандра Сегень), зусім новую песню спявалі таксама дзяўчаткі з Лубіна.

Апрача новага, добрага рэпертуару (хоць яшчэ і здараліся неадпаведныя для ўзросту песні), нельга не падкрэсліць значна лепшую ў сёлетнім конкурсе, вышэйшую культуру і эстэтыку выканаўцаў. Большасць удзельнікаў выступіла ў нацыянальных касцюмах, частка — у школьным адзенні. Не было выпадку няўмелага захавання на сцэне, кожны рух быў прадуманы, культурны і вельмі натуральны.

Агульна кажучы, конкурс быў вельмі ўданы. Багаты і масавы. 52 удзельнікі. Сэрца радавалася, гледзячы на расспяваную моладзь, нават на маленькіх дзяцей, якія любяць і так прыгожа спяваюць беларускія песні.

Але не магу не сказаць аб некаторых недахопах арганізацыйнага характару.

Па-першае. У зале, апрача ўдзельнікаў, іх апекуноў і арганізатараў, зусім не было публікі. Даслоўна пяць хлапцоў-сяброў, якія нейкім цудам даведаліся аб конкурсе. Ніякіх аб'яў на гэтую тэму нідзе не было. Аказалася зусім не выкарыстанай справа прапаганды беларускай песні. А конкурс быў варты гэтага.

Па-другое. Ужо не першы раз звяртаю ўвагу арганізатарам на хоць бы дробны пачастунак для дзяцей. Вядома, што на конкурс з'язджаюцца дзеці з далёкіх куткоў Беласточчыны. Выязджалі ранішнім, можа першым аўтобусам, напэўна, ледзь не на досвітку. Конкурс працягваўся да трэцяй гадзіны. Дзеці не атрымалі нават шклянкі чаю. Невялікім коштам можна было б зрабіць дзецям сякі-такі сняданак, хоць бы па шклянцы чаю з пончыкамі. Дзеці адчувалі б сябе напэўна лепш і здаравей.

Маю надзею, што ў наступным годзе гэтыя дробныя, але важныя справы не будуць памінуты арганізатарамі. І жадаю ім такога ж удалага конкурсу, які быў сёлета.

**Яніна Чэрнякевіч,**
Фота аўтара



## ПАЛОСКА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

### ТВОР ПАЭТЭСЫ ВЕРАНІКІ ЛЕАНЮК*)

Тэма цікавая, хоць старая як свет. Верш блізкі вясковаму асяроддзю, але паколькі напісаны стылем яшбуршчыны, непачытны, траціць да мінімума сваю якасць. Запамінаюцца ў вершы толькі найвыразнейшыя словы: „бягу да цябе", „бягу, бягу" і зноў „бягу да цябе". Каб тварыла гэты верш твая прабабуля, нягледзячы нават на тое, што жыла ў цемры і была поўнасцю непісьменнай, то стварыла б яго больш удала. Яго можна было б не толькі латвей запамятаць, але надаваўся б нават да спеву. Гэта бясспрэчна!

Гэты верш выглядаў бы больш-менш так:

*Да цябе бягу,*
*Бо жыць не магу.*
*Ой, бягу, бягу*
*Улета і зіму.*
*А прыйдзе вясна,*
*То мне няма сна.*
*Без утрымання*
*Я да кахання.*
*Бунтуецца кроў,*
*Бягу ўвосень зноў.*
*Бягу цэлы год,*
*Бо такі мой род.*
*Бягу са ўсіх сіл,*
*Бо ты вельмі міл.*
*Як да шлюбу стану,*
*Бегаць перастану.*

І так, шаноўная паэтэса Вераніка, адароная прыродай, творчым талентам (які даецца не многім), ты супраць сваіх прабабуляў, губляеш свой талент, стаіш на сцяжыне „сучаснай" плыні творчасці, якая, калі чымсьці і цікавая, то мінімальна вузкаму кругу людзей, а не шырокім масам чытачоў і народу, вясковаму асяроддзю, з якога выводзішся сама.

**Дзядзька Квас**

*) *„Беларускі каляндар-78"*

